*Залеская талака / інфармацыйны бюлетэнь Залескага сацыяльна-дзелавога цэнтра / №1 /ліпень 2011*

# Залеская талака

## СТВАРЭННЕ САЦЫЯЛЬНА-ДЗЕЛАВОГА ЦЭНТРА Ў ЗАЛЕССІ

У ліпені 2011 года ў Залессі распачынае сваю працу сацыяльна-дзелавы цэнтр, што адчыняецца ў рамках праграмы малых грантаў амбасады ЗША. 5 ліпеня адбылася прэзентацыя цэнтра, падчас якой вялася гутарка пра яго мэты і задачы, праблемы і перспектывы Залесся.

**Мэты цэнтра**

Развіццё дзелавога патэнцыялу вясковых жыхароў і іх грамадскіх ініцыятываў.
Фарміраванне салідарнай вясковай супольнасці шляхам сумеснага вырашэння пытанняў мясцовага развіцця.
Інфармаванне пра прыватную ініцыятыву ў вёсцы.
У працэсе ажыццяўлення праекту ў вёсцы Залессе будзе створаны мультысервісны сацыяльна-дзелавы цэнтр вясковага развіцця.

**Задачы цэнтра**

Адраджэнне Залесся як прыгожага і заможнага еўрапейскага мястэчка.
Арганізацыя сацыяльных, культурных, экалагічных, грамадскіх мерапрыемстваў і праграм, накіраваных на рэалізацыю “Стратэгіі ўстойлівага развіцця в. Залесся – Мясцовая павестка 21”.
Развіццё творчага патэнцыялу і грамадскіх ініцыятываў жыхароў Залескага с/с у інтарэсах паляпшэння якасці жыцця ў вёсцы; развіццё прыватна-дзяржаўнага і сацыяльнага партнёрства.
Правядзенне мерапрыемстваў і праграм, што садзейнічаюць працоўнай занятасці ў вёсцы, развіццю малога бізнэсу і аграды экатурызму, актыўнаму ўдзелу ў грамадскім жыцці ўсіх сацыяльных груп, у тым ліку жанчын і пажылых людзей.
Правядзенне сацыяльных і дзелавых адукацыйных праграм, садзейнічанне стварэнню грамадскіх гурткоў і ініцыятываў па інтарэсах.
Стварэнне ўмоў для інфармавання насельніцтва і стымулявання сацыяльна-дзелавой і творчай актыўнасці мясцовых жыхароў.
Развіццё міжнароднага супрацоўніцтва паміж прадстаўнікамі малога бізнэсу ў сферы аграэкатурызму, культуры і народных рамёстваў, паміж органамі мясцовага самакіравання і грамадскімі ініцыятывамі.
Памяшканне для цэнтра будзе знойдзена ў бліжэйшы час.

*Ала Шыцікава*



## Нашы ў Германіі. Асабісты досвед

Напрыканцы мая мне пашчасціла прыняць удзел у беларуска-германскім праекце –Тыдні “Экалогія без межаў”, які быў прымеркаваны да 25-й гадавіны катастрофы на Чарнобыльскай АЭС. Арганізатары праекта імкнуліся прадэманстраваць ашчаднае стаўленне да эргетычных рэсурсаў і паказаць магчымасці адмаўлення ад ядзернай энэргіі.
Мы наведалі экалагічную станцыю ў Бергкамен-Хайль, гаспадарку па вырошчванні садавіны і агародніны, цэх па вытворчасці энэргіі з раўніны, ветрасілавую ўстаноўку… Мы былі ў маленькіх і вялікіх нямецкіх гарадах, вёсках і вёсачках, сустракаліся з вельмі living людзьмі, атрымалі масу прыемных уражанняў. Нас сустракалі і суправаджалі на працягу ўсёй паездкі цудоўныя людзі, якія не шкадавалі для беларусаў свайго часу, цеплыні і ўвагі.
Што найбольш уразіла? Не парадак і чысціня навокал - гэтага чакалі. Уразіла разнастайнасць дамоў і дворыкаў у мястэчку Бад-Зассэндорф: не сустрэлася ніводнага аднолькавага, усе розныя і ўсе прыгожыя! Запомніліся таксама мясцовыя могілкі, дзе ўсё дагледжана і маецца спецыяльнае памяшканне з усімі неабходнымі прыладамі для догляду за пахаваннямі: палівачкі, лапаты, бутэлькі для вады.
У Бад-Зассэндорфе мы жылі ў старажытным замку, прыстасаваным пад гатэль, і гэта таксама падкрэслівае беражлівае стаўленне немцаў да сваёй спадчыны.

*Тамара Ліс*




Краіна кветак - Галандыя

У красавіку 2011 года групе беларускіх жанчын, дзякуючы сумеснаму беларуска-нідэрландскаму праекту, пашчасціла з'ездзіць у Галандыю. Сярод іх пабывала ў "краіне кветак" і Ала Шыцікава – чалавек добра вядомы ў Залессі, кіраўніца пярвічнай арганізацыі "Сяльчанка" ў Смаргонскім раёне.

Галандыя – цюльпаны і ветраныя млыны? Галандыя – гэта вельмі шмат цюльпанаў і ветраных млыноў, але не толькі... Для беларусак у Галандыі зладзілі змястоўную праграму "кветкавага" накірунку.



Жанчыны наведалі самы буйны парк ландшафтнага дызаўну ў горадзе Аппелтэрн, прыватны скульптурна-ландшафтны парк Romee Kanis, цяплічную гаспадарку Knol, што займаецца вырошчваннем альстрамерый, Каралеўскі парк цюльпанаў Keukenhof і некалькі фермерскіх гаспадарак, што спецыялізуюцца на вырошчванні кветкавых цыбулін, лілій і ружаў у цяпліцах.

Большасць тэрыторыі Галандыі знаходзіцца ніжэй узроўню мора і яе жыхары пастаянна змагаюцца з затапленнем. Даволі паспяхова змагаюцца: тэрыторыя дзяржавы прыкладна ж такая, як Менская вобласць, а гадавы бюджэт у два разы большы, чымсьці гадавы бюджэт нашай суседкі Расіі.

Для пятнаццаці беларусак у Галандыі былі арганізаваны цікавыя семінары і майстар-класы па фларыстыцы, яны змаглі паўдзельнічаць у падрыхтоўцы да штогадовага параду кветак, на які прыязджаюць турысты з усяго свету, і папрысутнічаць на ім таксама. Падарожжа ў гэту маленькую, але цікавую і заможную еўрапейскую краіну застанецца прыемнай згадкай у сэрцы, але не гэта самае важнае. Беларускі прывезлі з Галандыі шмат задумак і ідэй для Беларусі. У прыватнасці, Ала Мікалаеўна Шыцікава і іншыя актывісткі пярвічнай ГА "Сяльчанка" вырашылі ажыццявіць у Залессі праект "Кветкавая вёска".

*Дар'я Ліс*

## Як распачаць сваю справу ў вёсцы?

У жыхарак Залесся цяпер ёсць магчымасць распачаць свой бізнэс: рэспубліканская жаночая грамадская арганізацыя "Сяльчанка" выйграла грант, які дае рэальны шанец зрабіць гэта. Чым можна займацца ў вёсцы? Рабіць сыры, вырошчваць гародніну, кветкі або штосьці іншае.

Працягваецца конкурс бізнэс-ініцыятыў і яшчэ не позна прапанаваць штосьці незвычайнае, цікавае і атрымаць для гэтага фінансавую падтрымку. Для арганізацыі ўласнай справы, якую будзе весці адзін чалавек, можна будзе атрымаць 300 еўра, сямейны бізнэс можа разлічваць на 600, а кааператыў (некалькі чалавек) – на 1200 еўра. Канчатковае рашэнне па прадастаўленні субсідыі прымае нідэрландскі бок.

Жыццё ў вёсцы можа быць цікавым і змястоўным. Галоўнае - жаданне працаваць і здольннасць скарыстаць тыя шансы, што мы маем цяпер.

*Ала Шыцікава*





Заснавальнік ГА "Сяльчанка" /адрас: в. Залессе, вул. Чыгуначная. Галоўны рэдактар Дар'я Ліс, тэл. для сувязі +375 29 655 30 13
250 асобнікаў, распаўсюджваецца бясплатна "Пры падтрымцы Праграмы Малых Грантаў амбасады ЗША ў Рэспубліцы Беларусь".